# БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ

№ 9 (184)
верасень 2017

Інфармацыйны бюлетэнь • Міжнароднае грамадскае аб'яднанне "Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына"


## У НУМАРЫ:

### Кніжныя шафы "Бацькаўшчыны": хто там?

Бібліятэка Згуртавання, поўная бібліяграфічных рэдкасцяў і каштоўных аўтографаў, збіраецца 27 гадоў, з часу заснавання "Бацькаўшчыны".

Працяг на старонцы 3.

### Галіна Руднік: першае спатканне і апошняе інтэрв'ю

Галіна Руднік адышла 13 верасня. Але мясяцы за тры да таго Наталля Гардзіенка паспела з ёй пагутарыць.

Працяг на старонцы 4.

### Унікальная гісторыя беларускага замежжа ў адной кнізе

У Беларусі выйшлі "Хронікі БІНіМу" – самай дасведчанай навуковай установы беларусаў-эмігрантаў. Гэта 33 кніга выдавецкай серыі "Бібліятэка "Бацькаўшчыны".

Працяг на старонцы 5.

### Абвешчаны пераможцы Прэміі Міжнароднага Кангрэса даследчыкаў Беларусі

Урачыстая цырымонія надання прэміі адбылася 16 верасня ў варшаўскім Палацы Сташыца, дзе месціцца Польская акадэмія навук.

Працяг на старонцы 6.




# ВА ЎРАГАННЫМ МІНСКУ ПРЭЗЕНТАВАЛІ АЎТАРСКУЮ СПАДЧЫНУ ФІЛОСАФАЎ

Непадалёк ад сумнавядомага "саркафага" Палаца Рэспублікі і ад месца, дзе некалі стаяў помнік Іосіфу Сталіну, у мінскім Палацы прафсаюзаў на Кастрычніцкай плошчы, прэзентавалі дзве кнігі сябраў Рады БНР – Тамаша Грыба і Уладзіміра Самойлы.

Менавіта гэтымі двума аднатомнікамі распачалася падсерыя выдавецкага праекта "Бібліятэка Бацькаўшчыны" ЗБС "Бацькаўшчына", якую арганізацыя заснавала сёлета сумесна з Беларускім дзяржаўным архівам-музеем літаратуры і мастацтва і Нью-Ёркскім беларускім інстытутам навукі і мастацтва. Аднатомнікамі, бо кожная з кніжак з'яўляецца пэўнага кшталту экстрактам аўтарскай спадчыны, якая ўпершыню выходзіць у выглядзе кнігі.

Атрымліваецца выдавецкі парадокс, бо звычайна аўтар выдае пасобныя кніжкі, з якіх пасля ўдзячныя ці не вельмі нашчадкі выбіраюць ім патрэбнае і актуальнае.

Але з серыяй "Спадчына: агледзіны" такая логіка не працуе. Папросту таму, што прэзентаваныя аўтары – і Тамаш Грыб, і Уладзімір Самойла – чакалі ўдзячных нашчадкаў дастаткова доўга. Можна спраектаваць, напрыклад, сітуацыю, калі Максім Гарэцкі гіне ў часе І сусветнай вайны і не паспявае выдаць сваю "Рунь". А ў 2017-м нехта друкуе ягоную першую кніжку. Гучыць неверагодна, але так здарылася з Тамашом Грыбам і Уладзімірам Самойлам – найвыдатнейшымі беларускімі інтэлектуаламі даваеннага часу.

У неспакойны вераснёўскі вечар, абцяжараны тэмпераментным ураганам "Тамаш", цёзкам аднаго з герояў прэзентацыі, да Палаца прафсаюзаў і размешчанага ў ім музея "Краіна мініі" дайшлі самыя нязломныя і матываваныя. Тым не менш, вечар, безумоўна, адбыўся.

Па-над выступоўцамі, на экране, увесь час луналі аблічы вернутых з забыцця спадароў Тамаша і Уладзіміра – іх фотаздымкі, адбіткі іх рукапісаў, візітоўкі і публікацыі ў старых газетах: Наталля Гардзіенка, якая разам з нашым чалавекам у New York Public Library Лявонам Юрэвічам апякуецца новай серыяй, падрыхтавала для вечарыны адмысловы візуальны шэраг.

Да прэзентацыі падсерыі "Спадчына: агледзіны" паспела з'явіцца колькі рэцэнзій на кнігі, таму на сустрэчу былі запрошаныя і першыя крытыкі – Ганна Севярынец і Ціхан Чарнякевіч.

Даследчыца, аўтар дакументальнай біяграфіі Дубоўкі Ганна Севярынец распавяла, што яе далучэнне да творчасці Уладзіміра Самойлы адбылося з падачы Лявона Юрэвіча, які ўмее зацікавіць і заахвоціць новаю тэмаю: "Звярнулася ў чарговы раз да спадара Лявона па нейкую інфармацыю пра Алеся Дудара, а ён кажа: а ў нас Самойла выходзіць. Па шчырасці, на той час гэта мала што казала мне. Цяпер, прачытаўшы артыкулы Самойлы пра Купалу, магу сказаць, што кожны настаўнік можа спакойна браць іх за аснову да сваёй лекцыі. Так добра падабраныя цытаты, так ясна выкладзеныя думкі, што і праз сто гадоў пасля публікацыі тэксты Самойлы лепш чым якія іншыя раскрываюць Купалу".

Працяг на старонцы 2.

навіны ЗБС "Бацькаўшчына"

# ВА ЎРАГАННЫМ МІНСКУ ПРЭЗЕНТАВАЛІ АЎТАРСКУЮ СПАДЧЫНУ ФІЛОСАФАЎ

Працяг са старонкі 1.

Літаратурны крытык Ціхан Чарнякевіч рэцэнзаваў кнігу лідара беларускіх эсэраў Тамаша Грыба, а ў сваім выступе акцэнтаваў увагу на тым, што лучыць абодвух першых герояў серыі "Спадчына: агледзіны": "Тут мы найперш маем справу з прыкладамі беларускага мыслення. Лагічным было б выпусціць трэцім томам збор твораў Ігната Канчэўскага. Творы Самойлы і Канчэўскага заўжды ідуць праз коску, калі гавораць пра беларускую філасофію. Напісаныя ў часы міжчасся Сярэдняй Літвы, яны прапаноўвалі свой варыянт развіцця беларускай нацыі. Гэтаксама абедзве кнігі – узор рытарычнага майстэрства. За што б ні браліся Грыб і Самойла – трактат, эсэ, ліст, палемічны артыкул, – усё гэта выдатны прыклад жанру".

Абодва героі серыі, як распавяла вядоўца Наталля Гардзіенка, мелі трагічны лёс – дагэтуль мы не ведаем дакладнага месца іх пахавання. На Альшанскіх могілках у Празе магіла Тамаша Грыба не знойдзеная, а Уладзімір Самойла разам з Антонам Луцкевічам і цэлай групай беларускай інтэлігенцыі быў арыштаваны ў 1939 годзе ў Вільні савецкімі энкавэдыстамі. След яго губляецца ў Мінску, дзе на 64-м годзе жыцця філосаф хутчэй за ўсё быў расстраляны.

Тым не менш іх тэксты і ў XXI стагоддзі застаюцца актуальнымі. Бо пісаліся яны людзьмі, якія ў надзвычай неспрыяльных і матэрыяльных, і геапалітычных умовах здолелі зрабіць многае – найперш раскрыцца як ідэолагі беларускага руху, палітыкі, навукоўцы. Іх энцыклапедычная дасведчанасць і нязломны аптымізм можа быць прыкладам і сёння – сітуацыя ўсё тая ж.

Набыць кнігу можна ў мінскіх крамах:
«Акадэмкніга» (пр-т Незалежнасці, 72);
«Кнігарня пісьменніка» (вул. Казлова, 2);
«Веды» (вул. К.Маркса, 36);
«Светач» (пр-т Пераможцаў, 11);
«Цэнтральная кнігарня» (пр-т Незалежнасці, 19);
«Кнігі & кніжачкі» (пр-т Незалежнасці, 14);
«Эўрыка» (вул. Куйбышава, 75);
а таксама ў інтэрнэт-крамах knihi.by і imbryk.by.

**Раман Паўловіч, "Будзьма беларусамі!"**

заява

## Заява фігурантаў "Справы патрыётаў": "Нягледзячы ні на што, кожны з нас будзе працягваць служыць Радзіме"

Паўгода прайшло з моманту ўзнікнення "Справы патрыётаў", першыя затрыманні па якой адбыліся 21 сакавіка гэтага года. Мы спадзяваліся, што зацікаўленым дзяржаўным структурам хопіць шасці месяцаў, каб разабрацца і зразумець: падстаў для ўзбуджэння крымінальных спраў па артыкулах 293 ч. 3 ды 287 не было і няма.

Так, справа па артыкуле "Аб падрыхтоўцы масавых беспарадкаў" (293 ч. 3) была спыненая, але замест асэнсавання памылковасці ўзбуджэння згаданых спраў, за гэты час ні з адной асобы па справе "Аб незаконным узброеным фармаванні" не было знятае абвінавачванне, і 21 верасня тэрмін следства па арт. 287 зноў працягнуты.

Так, мы ўсе – фігуранты "Справы патрыётаў" – сёння знаходзімся на свабодзе, адпушчаныя пад падпіску аб нявыездзе і неразгалошванні, але справа не спыненая. І непрыемным "сюрпрызам" стала нядаўняе пазбаўленне ліцэнзіі Ганны Бахцінай, адваката ключавога фігуранта справы Міраслава Лазоўскага, якога следства спрабавала прадставіць лідарам міфічнай "узброенай арганізацыі".

Відавочна, такое рашэнне ў дачыненні да аднаго з найбольш вядомых адвакатаў краіны палітычна матываванае, вытрыманае ў духу помсты за сумленнае выкананне Ганнай Віктараўнай сваіх прафесійных абавязкаў у якасці юрыста і адваката. Спадзяемся, што падобная практыка не будзе прымененая да іншых адвакатаў, а несправядлівае рашэнне ў дачыненні да Ганны Бахцінай будзе адмененае.

Мы па-ранейшаму заяўляем аб сваёй невінаватасці і перакананыя: як самі арышты, так і надуманыя абвінавачванні ў крымінальных злачынствах, што сталі падставай для "Справы патрыётаў", – гэта цалкам палітычнае рашэнне, якое не мае фактычных падстаў і звязанае з няздольнасцю дзяржаўных структур справіцца з узніклай агульнай напружанай палітычнай і сацыяльнай сітуацыяй у краіне ў лютым-сакавіку 2017-га.

Як трапна адзначыў **Аляксей Абрамаў**: *"Ва ўмовах пошуку дзяржчыноўнікамі магчымасці падоўжыць час свайго знаходжання на пасадах, яны спрабуюць любым чынам прыцягнуць знешнія рэсурсы для фінансавання стабільнасці сістэмы. У гэтым "шпагаце" паміж Усходам і Захадам, у шахматнай партыі з нябачнымі нам гульцамі, мы апынуліся ўцягнутымі ў гамбіт, дзе атрымалі ролі пешак, якімі без ваганняў ахвяравалі для дасягнення ўяўных мэтаў".*

Пры гэтым, абвінавачванні ў спробе арганізацыі "масавых беспарадкаў", а пасля – у "стварэнні незаконнага ўзброенага фармавання" не маюць нічога агульнага ані з колішняй дзейнасцю ўжо даўно не існуючай спартова-патрыятычнай арганізацыі "Белы Легіён", ані з персанальнай дзейнасцю і жыццём кожнага з нас, хто з-за палітычных гульняў трапілі пад рэпрэсіі.

*"Я ніколі не думаў, што любоў да Радзімы, а таксама выхаванне і заахвочванне падобных якасцяў у іншых, можа трактавацца як злачынства. Дзяржава прапагандуе і спорт, і здаровы лад жыцця, і службу ў войску… – усё тое, што папулярызую і я асабіста, і мае сябры. Дык за што з нас робяць злачынцаў – за падтрымку дзяржаўнай палітыкі ў гэтых кірунках?"*, – адзначае **Віктар Данілаў**.

*"Як сведчыць гісторыя, асабліва ў крытычныя для краіны часы менавіта патрыёты рабіліся найкаштоўнейшым рэсурсам дзяржавы. А ганьбаванне і перакручванне на негатыўны лад самога паняцця "патрыёт" супярэчыць базавым інтарэсам любой дзяржавы"*, – лічыць **Міраслаў Лазоўскі**.

Мы хочам падзякаваць усім, хто не паверыў дзяржаўным СМІ, якія спрабавалі зрабіць з нас крымінальнікаў, а таксама ўсім арганізацыям, ініцыятывам і асабіста кожнаму, хто аказваў дапамогу і падтрымку і нам, і нашым сем'ям, ахвяруючы сваім спакоем і дабрабытам.

*"Калі б не людская хваля салідарнасці і дапамогі, аб'ектыўнае асвятленне і пільная ўвага з боку журналістаў незалежных выданняў, разуменне і падтрымка міжнароднай супольнасці, найперш прадстаўнікоў амбасад замежных краін, імаверна, мера стрымання дагэтуль не была б зменeная, і годныя людзі заставаліся б за кратамі. І мы верым, што такая хваля салідарнасці дапаможа паставіць апошнюю кропку ў гэтай надуманай справе – спыніць яе з-за адсутнасцю складу злачынства"*, – падкрэслівае **Ніна Шыдлоўская**, грамадскі прадстаўнік фігурантаў "Справы патрыётаў".

На жаль, былі і спробы спекуляцый на нашай бядзе. Таму мы вымушаныя звярнуцца з перасцярогай: любое пазіцыянаванне сябе якімі-кольвек асобамі як чальцоў "Белага Легіёна", дзейнасць ад імя гэтай ужо не існуючай арганізацыі, збор грошаў як быццам бы на патрэбы "арганізацыі" альбо яе чальцоў, просім лічыць формай махлярства, якое мяжуе з правакацыяй. Нагадваем, што "Белы Легіён" ужо працяглы час як спыніў існаванне, а колішнія яго ўдзельнікі не мелі і не маюць намеру аднаўляць падобнай структуры.

Мы, фігуранты "Справы патрыётаў",

– падкрэсліваючы сваю невінаватасць перад законам,

– адзначаючы палітычную матываванасць узнікнення такой справы,

– маючы падставы для сумневу ў аб'ектыўнасці вядзення следства, і таму не ўяўляючы, як доўга нашы асабістыя лёсы і лёсы нашых сем'яў будуць выкарыстоўваць у палітычнай гульні, сцвярджаем наступнае:

**Нягледзячы ні на што, кожны з нас будзе працягваць справу нашага жыцця – служэнне Радзіме праз развіццё беларускай культуры, пашырэнне беларускай мовы, умацаванне нацыянальнай ідэнтычнасці, адстойванне нацыянальных інтарэсаў усімі законнымі спосабамі дзеля ўмацавання і абароны канстытуцыйнага ладу Рэспублікі Беларусь.**

*Фігуранты "Справы партрыётаў":*
Абрамаў Аляксей, Бяляўскі Андрэй, Данілаў Віктар, Дундукоў Андрэй, Зімніцкі Аляксандр, Кавальчук Іван, Комлік-Ямацін Андрэй, Лазоўскі Міраслаў, Мароз Віктар, Новік Дзмітрый, Пашкевіч Цімур, Румянцаў Уладзімір, Стрыбульскі Сяргей, Яўдаха Алесь, Фёдараў Уладзімір

**26.09.2017 г.**

заява

## Заява Управы МГА "ЗБС "Бацькаўшчына" з нагоды пазбаўлення Ганны Бахцінай адвакацкай ліцэнзіі

Сёння, 12 верасня, вядомая беларуская адвакатка і праваабаронца Ганна Бахціна была пазбаўленая адвакацкай ліцэнзіі кваліфікацыйнай камісіяй Міністэрства юстыцыі Рэспублікі Беларусь з фармулёўкай "недастатковая прафесійная кваліфікацыя".

Пры гэтым Ганна Віктараўна вядомая беларускай грамадзянскай супольнасці як прафесіянал найвышэйшага кшталту. За 38 гадоў прафесійнага стажу ёй, сярод іншага, давялося абараніць у працэсах Вярхоўнага суда інтарэсы ГА "Саюз беларускіх пісьменнікаў", а таксама паспяхова весці гучныя справы Ірыны Халіп, Іллі Валавіка і Эдуарда Пальчыса.

У апошнія месяцы Ганна Бахціна абараняла правы аднаго з ключавых фігурантаў "Справы патрыётаў" Міраслава Лазоўскага. Мы лічым, што пазбаўленне Ганны Бахцінай права на адвакацкую практыку напярэдадні прыняцця рашэння аб працягу ці спыненні крымінальнай справы ў адносінах да яе падабароннага з'яўляецца палітычна матываваным.

Звяртаемся да Міністэрства юстыцыі Рэспублікі Беларусь з заклікам перагледзець прынятае рашэнне ў адносінах да аднаго з найбольш прафесійных і прынцыповых адвакатаў краіны.

**Інфармацыйны цэнтр МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"**

ЗБС "Бацькаўшчына"

# КНІЖНЫЯ ШАФЫ «БАЦЬКАЎШЧЫНЫ»: ХТО ТАМ?

Шмат людзей з Беларусі і замежжа ведаюць штаб-кватэру ЗБС "Бацькаўшчына" на вуліцы Кузьмы Чорнага. Тут заўсёды поўна наведнікаў, шумна ад дыскусій і абмеркаванняў. Па-над гаманой узвышаецца багатая бібліятэка Згуртавання, якая, магчыма, з'яўляецца найлепшай бібліятэкай грамадскай арганізацыі, поўнай бібліяграфічных рэдкасцяў і каштоўных аўтографаў. Збіраецца яна 27 гадоў, з часу заснавання "Бацькаўшчыны".



## 1. Палова пакоя

Там, дзе збіраюцца людзі культуры, заўсёды ўтвараюцца кніжныя паліцы. Зразумела, што, пры поўнай забароне эміграцыйных кніг у савецкі час, беларусы замежжа з радасцю дзяліліся сваімі выдадзенымі кнігамі, як толькі атрымалі магчымасць легальна іх даслаць альбо прывезці. Ужо на пачатку 1990-х, калі "Бацькаўшчына" займала аж цэлую палову пакоя ў будынку побач з цыркам і першай мінскай электрастанцыяй, кнігі ў арганізацыі прысутнічалі. Штосьці прывозілася дыяспарай у падарунак, штосьці, наадварот, чакала адпраўкі за мяжу. Бо за пражавелай жалезнай заслонай голад на добрую кніжку, выдадзеную ў Мінску, быў не меншы, чым у сталіцы – на эміграцыйную.

Ясная рэч, што пры такім раскладзе паўнавартасную бібліятэку трымаць было немагчыма. Аднак пасля таго, як на праблему дыяспары звярнулі ўвагу ўлады новай незалежнай Рэспублікі Беларусь, з'явіліся падставы для асцярожнага аптымізму. Савет Міністраў дакляраваў стварэнне "Беларускага Дому", і ў 1993 годзе Мінгарвыканкам заключыў з "Бацькаўшчынай" дамову арэнды будынка на Рэвалюцыйнай, 15, дзе згуртаванне атрымала магчымасць нармальна працаваць. І, канечне, уладкаваць бібліятэку.

## 2. На Рэвалюцыйнай, 15

Старшынёй Рады арганізацыі ў 1993 годзе стала экс-дырэктар Архіва літаратуры і мастацтва БССР Ганна Сурмач. Яна запрасіла на працу ў "Бацькаўшчыну" архівістку Валянціну Фок. З 1993 года збіранне бібліятэкі, уладкаванне архіва і прадметаў культурнай спадчыны дыяспары набыло зусім іншы кшталт. І самім былым "невяртанцам" цяпер было куды зайсці, пагутарыць, распавесці пра свае праблемы і прапанаваць дапамогу. Сведчаннямі таго часу – аўтографы дзеячаў дыяспары:

*"Таварыству "Бацькаўшчына" прысьвячаю з нагоды наведаньня Галоўнае Кватэры ў Менску. 12 верасьня 1994 году"* (на кн. Мерляк. "Дзейнасць Кастуся Мерляка на эміграцыі").

*"Шаноўнай спадарыні Ганне Сурмач на роздум пра мінулае Маці-Радзімы – ад Сакрата Яновіча. 1994.03/06. Беласток"* (на кн. S. Janovicz. Terra incognita: Białoruś. Białystok, 1993).

*"Спадарыні Ганне Сурмач зычу добрага лёсу; цярплівасьці, безь якое не бывае вынікаў у грамадзкай працы – Сакрат Яновіч з даліны Крынкі. 1994.03/06"* (на кн. S. Janovicz. Dolina pełna losu).

*"Вельмі паважанай Ганне Сурмач на добры ўспамін – Ян Чыквін. 1.III.1997 г. Беласток"* (на кн. Ян Чыквін. Далёкія і блізкія. Беларускія пісьменнікі замежжа. Беласток, 1997).

Беластоцкія адзнакі гавораць і пра рэгулярныя паездкі кіраўніцтва "Бацькаўшчыны". Рэдкая камандзіроўка не прыносіла папаўнення ў бібліятэку. Збіралася таксама і дакументальная спадчына, паштоўкі, перыядычныя выданні. Спісы кніжных паступленняў згадваюць пра візіт Раісы Жук-Грышкевіч 20 верасня 1994 года. Ёсць у спісах і згадка пра падарунак Наталлі Арсенневай – кніга 1979 года "Між берагамі" з аўтографам аўтара:

*"На памятку ад аўтара Натальлі Арсеньневай 19.5.79 году"* (на кн. Н. Арсеннева "Між берагамі").

## 3. 2004 год: заснаванне "Бібліятэкі Бацькаўшчыны"

На пачатку 2000-х гадоў, калі стала зразумела, што дзяржаўныя выдавецтвы надоўга страцілі цікавасць да літаратуры беларускай эміграцыі; калі прыхільнае стаўленне да Наталлі Арсенневай і Масея Сяднёва змяніліся поўнай супрацьлеглацсю, Згуртаванне засноўвае выдавецкую серыю "Бібліятэка Бацькаўшчыны", хросным бацькам якой становіцца Лявон Юрэвіч, архівіст і літаратуразнаўца з Нью-Ёрка. Першай кнігай серыі стаўся мемарыяльны зборнік "Месца выдання – Парыж". Запачаткаванне працы над выданнем твораў дыяспары і даследаванняў пра яе паўплывала і на бібліятэку. Фундатар першай кнігі, адзін са стваральнікаў (разам з легендарным Янкам Філістовічам) парыжскага часопіса "Моладзь" Міхась Навумовіч перадаў "Бацькаўшчыне" поўную падшыўку гэтага выдання 1940-х гадоў. Разам з тым, у бюлетэні "Беларусы ў свеце" выходзіць заклік да дыяспары – дасылайце кнігі, перадавайце архівы, каб яны не згубіліся марна. У 2004 годзе ў серыі выходзіць і першая кніга Наталлі Гардзіенкі "Беларусы Аўстраліі" – разам з Лявонам Юрэвічам яны стануць найбольш актыўнымі працаўнікамі серыі. З гэтага часу ў Мінск з Амерыкі рушыць цэлая плынь дакументаў, кніг, эміграцыйных перыёдыкаў.

## 4. Падарункі Яна Запрудніка

Часопісы кніжных паступленняў зафіксавалі важны ўнёсак: у красавіку 2005 года Янка Запруднік перадае ў "Бацькаўшчыну" пакунак – кнігі, часопісы. Выключнасць тут у тым, што амаль усе кнігі маюць аўтографы аўтараў – пісьменнікаў замежжа. Частка падарунка з'яўляецца фрагментам бібліятэкі аднаго з прыкметных дзеячаў эміграцыі Ізыдара Плашчынскага (Гуткоўскага), брата Язэпа Пушчы і літаратурнага крытыка (1908–1986). З увагі на прафесію і брак крытыкаў на эміграцыі, літаратары Рыгор Крушына, Уладзімір Сядура, Янка Золак, Алесь Змагар, Вітаўт Тумаш замежжа актыўна падпісвалі Гуткоўскаму свае кнігі:

*"Із. Гуткоўскаму – суроваму крытыку, але аматару паэзіі дзеля ацэны. Рыгор Крушына 4.V."* (на кн. Р. Крушына. "Выбраныя творы", 1957).

*"Брату Ізыдару ў знак знаёмства ад аўтара. У. Глыбінны. 14 ліст. 1979. Трой, N.Y. ЗША"* (на кн. У. Глыбінны. Паэта з Божай ласкі. Успаміны і роздум пра Язэпа Пушчу (1902-1964). Нью-Ёрк. 1979).

*"Сп. І. Гуткоўскаму. Ці помніш нашыя сустрэчы? Янка Золак. 31 студз. 1980 г."* (на кн. Я. Золак. Творы. Том першы. Выдавецтва "Адгук", 1979).

*"Дарагому сябру Ізыдару ад аўтара. 15.IX.66"* (на кн. Алесь Змагар. Вызвольныя шляхі. Клііўленд: Выдавецтва Беларускага Вызвольнага Руху, 1965)

*"Вельмі Паважанаму мастаку беларускае крытыкі Сп. І. Гуткоўскаму ў глыбокай пашане. Аўтар. [Вітаўт Тумаш] 6/3/1967"* (на кн. Сымон Брага. Пытаньне імя доктара Скарыны ў сьвятле актаў і літаратуры. Нью-Ёрк-Мюнхен, 1967).

З'явілася ў "Бацькаўшчыне" некалькі кніг і з кнігазбору Леаніда Галяка (1910–1980), журналіста і сябра Рады БНР.

*"Сп. Галяку ад аўтара. 1/2-64"* (на кн. Я. Юхнавец. "Новая элегія")

*"Паважанай Спадарыні Галяк на добрую памяць. М. Сяднёў. 25.3.89"* (на кн. М. Сяднёў. А часу больш, чым вечнасць. Глен-Коў, 1989)

Ад таго ж Янкі Запрудніка ў "Бацькаўшчыне" з'явіліся мюнхенскія выданні 1950-х гадоў, калі ў Нямеччыне актыўна працавала, прабачце за таўталогію, "Бацькаўшчына" – газета і кніжнае выдавецтва пры ёй, якімі кіраваў Станіслаў Станкевіч. Там жа дзеяў і Інстытут вывучэння СССР, з сур'ёзным кантынгентам беларускіх даследчыкаў – Паўлам Урбанам, Антонам Адамовічам, Уладзімірам Глыбінным і многімі іншымі, якія друкавалі ў выдавецтве Інстытута навуковы альманах "Беларускі зборнік" і манаграфіі, якія былі таксама падараваныя Янкам Запруднікам у бібліятэку Згуртавання.

## 5. Працяг пачатку

У 2006 годзе, пасля прэзідэнцкіх выбараў і Плошчы, "Бацькаўшчына", нягледзячы на дамову арэнды да 2018 года, фактычна выганяецца з будынка па Рэвалюцыйнай, 15. Ні пра які "Беларускі Дом", музей беларускай эміграцыі, архіў і культурна-адукацыйны цэнтр па яе вывучэнні гаворкі не вядзецца. Некалькі гадоў арганізацыя разам з эміграцыйнымі зборамі блукае па Мінску, нарэшце знаходзячы ў 2009 годзе прытулак на дзявятым паверсе жылога будынка па вуліцы Кузьмы Чорнага, якое нечым нагадвае "палову пакоя" пачатку 1990-х. Значная частка матэрыялаў рашэннем Рады была перададзеныя ў архіўны фонд Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва. З нядаўняга часу там працуе адмысловы цэнтр па вывучэнні эміграцыі, якім апякуецца намесніца дырэктара архіва Наталля Гардзіенка (да таго ж яна і сябра Рады "Бацькаўшчыны"). Але бібліятэка – засталася. Самвыдат 1940-х з лагераў DP, часопісы з Аўстраліі і Вялікабрытаніі, Францыі і ЗША, праграмы палітычных партый і шматлікія праекты амерыканскага БІНІМа, кнігі з усіх канцоў свету.

Справа бібліятэкі працягваецца: больш за тры дзясяткі кніг выйшлі з 2004 года ў серыі "Бібліятэка Бацькаўшчыны". А на стале бібліятэкаркі Вольгі раз-пораз узнікаюць падарункі дзеячаў беларускай дыяспары. Калі раптам хто захоча зразумець маштабы нашай дыяспары – дастаткова будзе завітаць у "Бацькаўшчыну". І расчыніць дзверцы кніжных шафаў.

**Ціхан Чарнякевіч, "Будзьма беларусамі!"**

**Публікацыя зроблена ў межах ініцыятывы "Грамадскі ўдзел", якая аб'ядноўвае розныя арганізацыі дзеля пашырэння грамадскай актыўнасці і развіцця грамадзянскай супольнасці**

гутарка

# Галіна Руднік: першае спатканне

Вестка пра смерць Галіны Руднік была нечаканай. Якія тры месяцы таму мы сустракаліся з ёй у Мюнхене. Спадарыня Галіна тады толькі даведалася пра свой дыягназ, але выглядала даволі энергічнай, пазітыўнай, жыва адказвала на ўсе пытанні, ні на што не скардзілася. Менавіта таму і не верылася, што яна адыдзе так хутка...



Ларыса Урбан і Галіна Руднік. Мюнхен, чэрвень 2017.

Ідэя спаткацца з Галінай Руднік, пра якую я багата ведала дзякуючы і ейным уласным успамінам, і іншым звесткам з эміграцыйных дакументаў, перыёдыкі, публікацый, была звязаная найперш з цікавасцю да беларускіх пахаванняў у Мюнхене. Я мела колькі здымкаў надмагілляў мюнхенскіх беларусаў, аднак далёка не ўсё, дый частку пахаванняў не магла суаднесці з канкрэтнымі могільнікамі... Таму і захацелася спаткацца з ці не апошняй з тамтэйшых беларусак, якая памятала яшчэ Мюнхен 1950-х: з газетай "Бацькаўшчына", беларускім аддзелам у Мюнхенскім інстытуце вывучэння СССР і, канечне, беларускай рэдакцыяй Радыё Вызваленне / Свабода.

Спадарыня Галіна сама пазваніла да мяне ў Мінск у адказ на мой ліст і пагадзілася на сустрэчу, калі я буду ў Мюнхене. Так і спаткаліся ў ейнай хаце 5 чэрвеня 2017 года. Яна вельмі перапрашала, што не змагла сама адвезці на могілкі і паказаць тыя беларускія пахаванні, якія ведае... Са згадак пра іх і пачалася наша размова.

## Раскіданыя па могільніках

**Наталля Гардзіенка: Першае, што цікавіць, – гэта беларускія могілкі ў Мюнхене. Беларусы тут пахаваныя на розных могільніках. А чаму так сталася, што не з'явілася агульнай дзялянкі для беларусаў?**

**Галіна Руднік:** У той час, наколькі мне ведама, толькі ўкраінцы мелі сваю дзялянку ў Вальдфрыдгоф. І, можа, мусульмане, а так ніхто не меў. Расійцы, у іх манастыр ёсць у Опермельцынгу. Беларусаў было вельмі мала ў Мюнхене, амаль усе выехалі ў Амерыку ці куды яшчэ, так што не было патрэбы ў агульным могільніку. Хавалі абы-дзе.

**НГ: А можаце прыгадаць, хто на якіх могілках пахаваны?**

**ГР:** Ведаю, што на могілках Перлахер Форст Леанід Карась быў пахаваны, малады журналіст. Ён быў самы першы, у верасні 1954 года забіты. Але магілы ўжо няма. Уладзімір Бортнік тамсама быў, але не ведаю, дзе, мяне тады ў Мюнхене не было, як яго хавалі. Амаль што на ўсіх могілках Мюнхена ёсць беларусы. На нашых, дзе цёця мая [спявачка Барбара Вержбаловіч], Вестфрыдгоф, там Зміцер Чайкоўскі, мастак, і Сымон Кандыбовіч ці Кабыш, у Інстытуце што працаваў. Там ён, ягоная жонка, і Лена, іх дачка. І гэта, па-мойму, усё. Тады на Остфрыдгоф была Надзея Абрамава, колішняя кіраўніца СБМ. Але я, здаецца, у мінулым годзе паехала, хацела паглядзець, але магілку яе ўжо забралі. Скончыліся грошы, відаць. Бо 30 гадоў найбольш можна было аплаціць за магілку, а тады яе прыбіраюць, як ніхто не плаціць. Як я была, нават яшчэ новага помніка не было, відаць, толькі-толькі яе магілу забралі. Там жа быў пахаваны і Ніканор Ляўковіч, брат Ніны Абрамчык, жонкі Прэзідэнта БНР. Журналіст Радыё Свабода Юрка Сянькоўскі пахаваны трошкі за горадам, у Фельдмохінгу, прадмесці Мюнхена. Там я нядаўна была, бо адзін беларус з Італіі прыязджаў, сваяк нейкі, і мы адшукалі гэтую магілку. Якраз у той дзень, калі мы прыйшлі на магілку, нейкая бландзіначка там ходзіць. Аказалася – дачка Сянькоўскага. Было вельмі прыемна. У Фельдмохінгу жыло некалькі беларусаў.

**НГ: А пісьменнік Пётра Сыч дзе пахаваны?**

**ГР:** Не ведаю. Ён таксама памёр, як мяне ў Мюнхене не было. Ці я ў Амерыцы была, ці дзе ў падарожжы, не ведаю. І жонка ягоная Эльза знікла, і не было ў нас больш кантакту ніякага.

**НГ: А журналіст з радыё Уладзімір Цвірка?**

**ГР:** Цвірка на нашых могілках гэтых, Вестфрыдгоф, пахаваны, яны жаграмадныя. І магіла ў яго цікавая, у выглядзе кнігі. Хто так прыдумаў, не ведаю.

**НГ: З магілай журналіста Алеся Марговіча звязаная цікавая гісторыя. Раскажыце яе, калі ласка.**

**ГР:** У Алеся Марговіча была прыяцелька немка. Нічога з палітыкай не мела, Беларусь ці Русланд – ёй было ўсё роўна. Але была яна вельмі шчодрая жанчына і вельмі добрая. Яна гандлявала нейкімі рэчамі з Італіі, то швэдры нейкія прывозіла, то яшчэ штосьці. І ўсе жонкі нашых супрацоўнікаў кідаліся-разбіралі. І вось Алесь Марговіч захварэў, нешта было са страўнікам. Яна яго за вялікія грошы вазіла паўсюль, нават у Бад Райхенгальд, ёсць тут горад такі, там нейкі знахар быў. Але нічога не дапамагло. Марговіч памёр, і яна яго пахавала на могільніку Перлахер Форст, і доўгадоўга не было помніка на магіле. Аказалася, што яна замовіла ў Італіі скульптуру Мадонны за 20 тысяч марак. У той час гэта былі дзікія грошы. І на мытні затрымалі, бо доўга сварыліся: ці гэта мастацтва, ці помнік. Але ўрэшце паставіла яна тую Мадонну на магілцы. Аднойчы прыбірала магілку, а праходзілі адміністратары могільніка і прапанавалі перанесці помнік у цэнтр могільніка. То яна з імі дамовілася, што магілку Марговіча ліквідуе, а Мадонну падорыць гораду, каб паставіць яе ў цэнтры могільніка. І за гэта яе горад пахавае сам ананімна, і ніхто не будзе ведаць, дзе яна і што. Але жонка Марговіча зрабіла на помніку надпіс адпаведны, праўда, напісала там нешта пра Русланд. А я ёй сказала: "Элізабэт, Алесь перавернецца ў труне, калі будзе ведаць, што ты напісала". І яна змяніла надпіс. Там цяпер пішацца пра Беларусь, што помнік ад беларускай сям'і. Так што магілы Марговіча даўно няма, ёсць толькі помнік.

## Амерыканская гісторыя і Мікола Абрамчык

Кніга ўспамінаў Галіны Руднік "Птушкі пералётныя" даволі эмацыйна распавядае пра яе беларускі перыяд, страту бацькі, зняволенне маці, жыццё ў Мінску разам з цёткай, опернай спявачкай Барбарай Вержбаловіч (цёцяй Варварай, як яна яе называла). Мне ж вельмі цікавы быў эміграцыйны перыяд яе жыцця, выезд у ЗША і вяртанне ў Еўропу – нетыповы сюжэт для паваеннай беларускай эміграцыі.

**НГ: Вы вучыліся ў гімназіі імя Янкі Купалы ў Нямеччыне. У нас у Беларускім дзяржаўным архівемузеі літаратуры і мастацтва ёсць Вашае арыгінальнае пасведчанне з гэтай гімназіі. Таксама як і пасведчанне Вольгі Харытончык, будучай жонкі Янкі Запрудніка. Большасць выпускнікоў гімназіі паехала вучыцца ў бельгійскі Лювен. А Вы не паехалі, чаму?**

**ГР:** Я не паехала, бо ў мяне была цёця, якая мяне ўзгадавала, і яна хацела толькі ў Амерыку, казала, што некалі дзядок наш успамінаў, што нейкія сваякі ехалі ў Амерыку, ну і мы імкнуліся толькі туды. І даехалі дзякуючы такім, як Янка Станкевіч, што прыбылі туды раней і рабілі нам афідэвіты, фальшывыя такія, нібыта там была гарантыя працы. Але працы ніякае не было, прыязджаеш і пачынай шукаць. Але мы змаглі прыехаць у Амерыку, і гэта правільна тады было. Праўда, я адразу ехала вучыцца, у мяне была стыпендыя. Год вучылася ў Пенсільваніі, каля Пітсбурга. Жыла ў сям'і пастара і ледзь не

# І АПОШНЯЕ ІНТЭРВ'Ю

звар'яцела, бо пасля шумнага Нью-Ёрка... Мы прыплылі ў Нью-Ёрк у чэрвені, а навука пачыналася ў верасні. І час да пачатку вучобы мы весела праводзілі. А потым я апынулася адна сярод амерыканцаў. Мову ведала, бо ў школе вучыла. Але страшна мучылася там. Каледж быў маленькі, узровень навучання невялікі. Я заўсёды любіла мовы і ўзяла курс французскай. Выкладчык жа адчуў, што я яе ўжо вучыла, то кожны раз, як нешта праходзілі новае, пытаўся: "Гэта правільна, міс Ганчарэнка?" [Ганчарэнка – дзявочае прозвішча Галіны]. Пэўна, я б звар'яцела, каб там засталася: і цёця ў Нью-Ёрку, і ўсе сяброўкі, усе справы беларускія. То я пайшла ў бібліятэку і пабачыла, што для жыхароў горада Нью-Ёрка ёсць, тады ён называўся Нью-Ёрк Сіці каледж, цяпер гэта Нью-Ёрк Сіці Юніверсіці. І там навука дармовая. Я хуценька паслала свае дакументы і перавялася ў Нью-Ёрк. І тры гады вучылася ўжо там.

**НГ: Наколькі складана было ўладкавацца ў той час у Нью-Ёрку? Дзе Вы там жылі?**

**ГР:** Нью-Ёрк у 1950-м годзе – гэта быў рай: жылля колькі хочаш. На самым пачатку мы жылі на сотай вуліцы Іст у Манхэтэне. Там было спакойна, можна было ўначы на вуліцу выйсці і нікому нічога не станецца. Год перад намі ў Амерыку прыехаў Янка Станкевіч, і ў яго была жылка такая прадпрымальніцкая. Ён здымаў кватэру, там было чатыры пакоі, ён здымаў яе за 48 даляраў на месяц. А потым кожны пакой ён здаваў беларусам па 48 даляраў на месяц. Так што меў прыбытак вельмі добры, такі бізнес быў. А тады ён нам запрапанаваў іншую кватэру, у яго на Брукліне яшчэ была. І мы туды перайшлі. Але там нейкі быў канфлікт, і тады нам суродзічы дапамаглі, і мы знайшлі кватэру на Норфалк-стрыт на самым Даўнтаўн у Манхэтэне. 13.50 каштавала нам на месяц. Жытло цёплае, было аграванне. Старыя такія дамы, але ўсё добра: уборная, каналізацыя. Мы там жылі і адтуль я ўжо ў Еўропу паехала.

**НГ: Наколькі я разумею, у тым, што Вы вырашылі вярнуцца ў Еўропу, вялікая роля была Міколы Абрамчыка.**

**ГР:** Так, вялікая роля. Я была на апошнім курсе, гэта быў 1953 год, пад Каляды. У той час якраз арганізоўвалі Радыё Вызваленне ў Мюнхене, амерыканцы далі грошы. Усім было досыць лёгка, украінцаў шмат засталося ў Нямеччыне і расійцаў таксама, а беларусаў было мала і ўсё пажылыя былі: Станіслаў Станкевіч, Пётра Сыч, Жук-Грышкевіч потым прыехаў. Ніводнага голасу маладзейшага. І спадар Абрамчык мне кажа: "Слухай, даражэнькая, ты б не паехала?". Я да цёці, а яна кажа: "Так, добра, але пазней. Дыплом на стол, а тады паедзем". А гэта было пад Калядны 1953-га. Спадар Абрамчык кажа: "Не, трэба хутчэй, бо грошы ёсць, ужо расійцы перадаюць і ўкраінцы". Але цёця сказала: "Не, спачатку дыплом". І правільна зрабіла, бо калі б я тады кінула, то так бы і без дыплома і засталася. Ну і мы вырашылі, што паедзем паглядзім Еўропу, бо нічога ж не бачылі тут абсалютна.

**НГ: А Вы з Міколам Абрамчыкам задоўга да таго пазнаёміліся?**

**ГР:** Я пазнаёмілася ў 1953 годзе. Тады быў абмен студэнтамі, і я была 6 тыдняў у Сарбоне. І тады зведала сваіх сяброў у Лювене, там недалёка было прыехаць з Парыжа. І Мікола Абрамчык тады запрасіў да сябе ў Вільпэнт, дзе яны жылі. Так што знаёмства пачалося з таго ж 1953-га года. І з Нінаю Абрамчык мы знаёмыя былі. Ніна была вельмі складаны чалавек, непрыдатная жонка для такога прэзідэнта. Ён вельмі элегантны быў, манеры ў яго былі, дыпламатычны. А яна расійцаў іначай чым маскалямі не называла, усялякія глупствы расказвала пра іх. Не мог чалавек на такім узроўні такую жонку мець. Хоць яна і вучылася недзе, але погляды ўяе былі вельмі прымітыўныя. Праз яе я і з іх сынам Алікам [Альгердам] страціла сувязь, а ён жа мой хрэснік.

**НГ: Напэўна, самая вялікая загадка, што засталася па Абрамчыку, гэта архівы БНР. Ці Вы нешта пра іх чулі?**

**ГР:** Абрамчыкі, канечне, жылі ў жахлівых умовах, у іх быў не дом, а як барак такі. Але двухпавярховы, другі паверх пад страхой. І вось там Мікола Абрамчык паказваў, у яго была валізка, дзе былі пашпарты БНР, маркі... Што яшчэ там было, не памятаю, запомніла толькі, як ён паказваў пашпарты і маркі. Але, відаць, і яшчэ нешта было, бо цэлая была валізка. А як ён памёр, Ніна сказала, што нікому нічога не дасць. Яна і з усімі суседзямі пасварылася. Так і не ведаю, што з той валізкай сталася.

## Беларускі Мюнхен

**ГР:** Я атрымала дыплом, і мы паехалі ў Еўропу. Знаёмыя ўсе вырашылі, што Варвара Іванаўна і Галіна трошкі з глузду з'ехалі, бо толькі пачалі абжывацца ў Нью-Ёрку, а раптам усё кідаць і ехаць назад у Еўропу... А мы думалі: ну, паедзем, можа, на год, паглядзім. Ніхто ж не думаў, што радыё будзе так доўга. Я 41 год у выніку прапрацавала там. Калі ехалі, мая ўмова была, што паеду толькі, калі цёцю змагу з сабою ўзяць, сказала, што цёцю ніколі не пакіну. Мне сказалі – добра. Тады вазілі ўсіх першым класам, але нам далі два турыстычныя квіткі.

<...>

Галіна Руднік адышла 13 верасня 2017 года. А я яшчэ маю ад яе заданне перадаць асобнік яе ўспамінаў у родны Бабруйск. Вось так чалавек пакінуў гэты свет, а падарункі ад яго яшчэ ідуць. Зрэшты, і тая нашая сустрэча застанецца для мяне сапраўдным падарункам на ўсё жыццё. Дзякуй Вам, спадарыня Галіна.

**Наталля Гардзіенка, "Будзьма беларусамі!"**

**Гэта першая частка гутаркі. Цалкам інтэрв'ю чытайце на сайце zbsb.org**

**Публікацыя зроблена ў межах ініцыятывы "Грамадскі ўдзел", якая аб'ядноўвае розныя арганізацыі дзеля пашырэння грамадскай актыўнасці і развіцця грамадзянскай супольнасці**

**навіны ЗБС "Бацькаўшчына"**

# УНІКАЛЬНАЯ ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСКАГА ЗАМЕЖЖА Ў АДНОЙ КНІЗЕ

У Беларусі выйшлі "Хронікі БІНіМу" – самай дасведчанай навуковай установы беларусаў-эмігрантаў. Гэта 33 кніга выдавецкай серыі "Бібліятэка "Бацькаўшчыны".

Пры канцы 1951 года намаганнямі беларусаў, якія па вайне апынуліся ў Злучаных Штатах Амерыкі, у Нью-Ёрку была створаная легендарная навуковая інстытуцыя – Беларускі інстытут навукі і мастацтва. Арганізацыі было наканавана не толькі праіснаваць да сённяшніх дзён, але праз пераемнасць пакаленняў даследчыкаў і наладжванне трывалых сувязяў шматкроць узмацніць свой аўтарытэт у навуковым асяродку беларусістаў. За савецкім часам БІНіМ быў ці не адзінай установай, якая на высокім навуковым узроўні займалася даследаваннем беларускай эміграцыі, у гістарычных працах унікала звычайных для айчынных даследаванняў скажэнняў і фальшавання фактаў, а таксама звярталася да рэлігійных тэм, рэгулярна друкуючы матэрыялы ў альманаху "Запісы".

За гады існавання БІНіМ пашырыўся на два філіялы – у Мюнхене (Нямеччына) ды ў Таронта (Канада), – усталяваў кантакты з сотнямі арганізацый, бібліятэкамі (асабліва шчыльныя з Публічнай бібліятэкай у Нью-Ёрку), каледжамі, фондамі.




Сотнямі таксама вымяраецца і лік навукоўцаў, якім давялося супрацоўнічаць з інстытутам. Бадай што галоўнымі вынікамі дзейнасці знакамітай установы можна назваць істотнае падвышэнне цікаўнасці заходніх даследчыкаў што да Беларусі, а таксама тое, што ад 2002 года інстытут з'яўляецца не выключна эміграцкай установай, а супольным ньюёркска-мінскім праектам і шчыльна супрацоўнічае з Беларускім дзяржаўным архівам-музеем літаратуры і мастацтва.

Амаль семдзесят гадоў руплівай плённай працы інстытута – больш чым дастатковы тэрмін для таго, каб паўстала нагода для гістарычнага даследавання цяпер ужо яго самога. Сябры БІНіМа Наталля Гардзіенка і Лявон Юрэвіч, скарыстаўшыся архівамі Вітаўта Тумаша (узначальваў інстытут у 1955–1982) і Вітаўта Кіпеля (узначальвае БІНіМ з 1982 года па сёння), бліскуча выканалі гэтую задачу, стварыўшы цікавую чытанку, у якой праз лісты, успаміны і пратаколы ключавых дзеячаў эміграцыі раскрываюцца няпростыя ўмовы працы, праз якія праходзіў шлях да немалых дасягненняў арганізацыі.

Выданне дапоўненае бібліяграфіяй альманаху "Запісы", а таксама біяграфічным даведнікам датычных да дзейнасці БІНіМа асоб.

**Інфармацыйны цэнтр МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"**

навіны

# Уладзімір Макей: Кансультатыўны савет можа стаць пляцоўкай для дыскусіі па распрацоўцы стратэгіі "Беларусь–дыяспара", аб якой ішла размова на сёмым з'ездзе беларусаў свету

8 верасня пад старшынствам Міністра замежных спраў Рэспублікі Беларусь Уладзіміра Макея адбылося трэцяе пасяджэнне Кансультатыўнага савета пры Міністэрстве замежных спраў Беларусі па справах беларусаў замежжа.

У мерапрыемстве ўзялі ўдзел кіраўнікі беларускіх суполак за мяжой – члены Савета з 19 краін, а таксама прадстаўнікі дзяржаўных устаноў Беларусі. У. Макей падкрэсліў, што дзяржава імкнецца аказваць максімальную падтрымку суайчыннікам, якія пражываюць за мяжой, а таксама выказаў думку аб тым, што Савет можа выступаць у якасці пляцоўкі для дыскусіі па распрацоўцы дзяржаўнай стратэгіі "Беларусь-дыяспара" на перыяд да 2025 года, аб якой ішла размова на 7-м з'ездзе беларусаў свету.

Падчас пасяджэння абмеркаваны вынікі сумеснай работы, разгледжаны планы і перспектывы, а таксама меры далейшай падтрымкі дыяспары з боку беларускай дзяржавы. Напярэдадні пасяджэння Кансультатыўнага савета на Траецкай набярэжнай г. Мінска быў урачыста адкрыты памятны знак "Беларусам замежжа".

Мерапрыемства адбылося ў дні правядзення ў Трэцяга фестывалю мастацтваў беларусаў свету і святкавання 950-годдзя горада Мінска.

**Паводле Міністэрства замежных спраў Рэспублікі Беларусь**




# Абвешчаныя новыя пераможцы прэміі Міжнароднага кангрэса даследчыкаў Беларусі

Урачыстая цырымонія надання прэміі адбылася 16 верасня ў варшаўскім Палацы Сташыца, дзе месціцца Польская акадэмія навук.




У другі дзень працы VII Міжнароднага Кангрэса даследчыкаў Беларусі, які праходзіў у Варшаве, былі названыя імёны лаўрэатаў Прэміі Кангрэса за найлепшыя навуковыя публікацыі 2015–2016 гадоў.

Прэмія Міжнароднага Кангрэса даследчыкаў Беларусі была заснавана ў 2013 годзе і ад пачатку надаецца ў трох катэгорыях: гісторыя, гуманітарныя навукі і сацыяльна-палітычныя навукі.

З ініцыятывы Паўночна-амерыканскай асацыяцыі даследчыкаў Беларусі прэмія па гуманітарных навуках у 2014 годзе была аб'яднана з Прэміяй імя Зоры Кіпель.

З 2015 года ў межах Кангрэса таксама надаюцца ганаровыя прэміі для замежных даследчыкаў за лепшыя навуковыя працы на беларускую тэматыку. У пазамінулым годзе гэта была прэмія за англамоўную манаграфію, у мінулым годзе – за найлепшую польскамоўную манаграфію. У гэтым годзе Аргкамітэтам Кангрэса была заснавана чарговая ганаровая прэмія – гэтым разам для нямецкамоўных аўтараў.

Яшчэ адным наваўвядзеннем стала заснаванне з ініцыятывы ЕГУ і Беларускага калегіума прэміі за лепшую студэнцкую працу, якая мае на мэце адзначыць дасягненні беларускіх студэнтаў у сацыяльных і гуманітарных навуках, падтрымаць іх творчую і навуковую працу.

Агулам гэтым годам у шорт-ліст Прэміі Міжнароднага Кангрэса даследчыкаў Беларусі трапіла больш за 50 навуковых прац, апублікаваных у 2015–2016 гадах. Экспертнымі радамі прэміі былі вызначаны наступныя пераможцы:

## Прэмія па гісторыі

• **Найлепшая манаграфія:** Алена Маркава. Шлях да савецкай нацыі. Палітыка беларусізацыі 1924-1929. – Мінск: БГА, 2016.

• **Найлепшыя артыкулы:**

Наталля Гардзіенка. Могілкі як частка мэмарыяльнай культуры беларускай эміграцыі // Запісы БІНіМ. Вып. 38. – Нью-Ёрк–Менск, 2016. – С. 8-70;

Аляксандр Пагарэлы. Вобраз горада ў дыскурсе беларускага хрысціянска-дэмакратычнага перыядычнага друку ў міжваенны час // HOMO HISTORICUS. Гадавік антрапалагічнай гісторыі / Пад. рэд. Алеся Смалянчука. – 2016. – С. 111-138.

## Прэмія па гуманітарных навуках – Прэмія імя Зоры Кіпель

• **Найлепшая манаграфія:** Андрэй Масквін. Беларускі тэатр 1920-30-х: адабраная памяць. – Мінск: Выдавецтва "ЛогвінаЎ", 2016.

• **Найлепшы артыкул:** Ганна Міхальчук. Новы спіс агульнадзяржаўнага летапісання Вялікага княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага і яго суадносіны з "Хронікай Быхаўца" // Białoruskie Zeszyty Historyczne = Беларускі гістарычны зборнік. – Беласток: Białoruskie Towarzystwo Historyczne, 2016. – № 45. – С. 190-225.

## Прэмія па сацыяльна-палітычных навуках

• **Найлепшая манаграфія:** Алена Гапава. Классы наций: феминистская критика нациостроительства. – Москва: Новое литературное обозрение, 2016.

## Прэмія за найлепшую нямецкамоўную манаграфію на беларускую тэматыку

• **Найлепшая манаграфія:** Bider Hermann. Edition und Kommentar: Anton Luckevič. Belaruskaja hramatyka. Studia Slavica Oldenburgsia.

## Прэмія за найлепшую студэнцкую працу

• **Намінацыя "Найлепшая бакалаўрская праца":** Алина Громова. Использование наследия нацистских концентрационных лагерей в развитии темного туризма (на примере Германии и Беларуси). – Вильнюс: ЕГУ, 2015.

• **Намінацыя "Найлепшая творчая праца":** Ксения Шталенкова. Разработка буктрейлеров к роману-трилогии "Адваротны бок люстра". – Вильнюс: ЕГУ, 2015.

**Служба інфармацыі "ЕўраБеларусі"**

навіны

# БЕЛАРУСКІ ХЛАПЕЦ – ЧЭМПІЁН АНТАРЫЯ

Сёлетні Кубак Антарыя, а з ім і тытул Чэмпіёна Антарыя ў шасэйных роварных гонках выйграў канадскі спартовец беларускага паходжання Антось Варабей.


“Радыё Свабода”

Каля 13 год таму вучань аднае са школ Таронта Антось Варабей (сын Ірыны Варабей), улюбёны ў роварны спорт і адораны ў выяўленчым мастацтве (напісаная ім у шаснаццацігадовым узросце ікона Святога Кірылы Тураўскага ўпрыгожвае алтар беларускай царквы ў Таронта), захварэў на рак.

Некалькі месяцаў Антось праходзіў праз хіміятэрапію і вырашыў для сябе, што, прынамсі, стане рабіць тое, што любіў найбольш, нават калі яно і сталася б апошнім у жыцці – упарта круціў педалі, не слухаючы ўсялякіх “што ты робіш?!”, “не калеч сябе!”.

Доктар, што лячыў Антося, расказаў хлапцу гісторыю аднаго вядомага ўсяму свету раварыста, які таксама перамог лімфому, пасля чаго знайшоў сябе ў спорце, дасягнуўшы у ім самых высокіх вынікаў. Антось паверыў у лепшае... Ягоныя малады арганізм, воля, упартасць і канадская медыцына перамаглі.

За адвагу і стаўленне да хваробы Антось атрымаў прэмію Nigel Williams Award “For Personal Strength And Courage” (“За персанальную сілу і мужнасць”) ад Упраўлення школамі Таронта, якая ўручаецца адзін раз на год толькі аднаму вучню з усяго трохмільённага Таронта. А пасля перамогі над хваробаю Антось заняўся роварам сур’ёзна.

Ва ўніверсітэце, дзе Антось вывучаў ландшафтную архітэктуру, ён разам з сябрамі стварыў клуб горнага ровара, і ўжо праз год яны выйгравалі працяглую серыю гонак Кубка ўніверсітэтаў Антарыя тры гады запар. А ў персанальным заліку Антось асабіста выйграваў Кубак Антарыя сярод студэнтаў. Поспехі паўплывалі на рашэнне Антося пасля заканчэння ўніверсітэта працягнуць прафесійную спартовую кар’еру – ён вырашыў заняцца шасэйнымі гонкамі.

Упартая праца над сабою, самаадданасць падчас трэніровак не прымусілі доўга чакаць. Антось узыходзіў на подыум у 24-гадзінных гонках у сольным разрадзе па горным ровары. Выйграваў шмат гонак у сваёй правінцыі, у Канадзе і ў Паўночнай Амерыцы. Прадстаўляў Канаду супраць найлепшых гоншчыкаў свету ў гонках “Spring Challenge”. Антось аб’ездзіў на ровары Канаду, большасць штатаў ЗША, Коста-Рыку, выспу Табага, Аб’яднаныя Арабскія Эміраты, Кітай, Аўстрыю, Славаччыну, Польшчу.

Сёлета Антось разам са сваімі сябрамі-спартоўцамі стварыў у Таронта канцэптуальна новую каманду “Toronto Hustle”. Ён з’яўляецца найстарэйшым у ёй, а таксама капітанам, трэнерам (“гуляючым трэнерам”) і юрыдычным суўладальнікам.

У першы ж сезон каманда пабрала ўсе прызы ў Антарыя. 20 жніўня Антось выйграў заключны этап Кубка Антарыя і, такім чынам, усю серыю гонак Кубка-2017.

У камандным заліку Кубак Антарыя таксама выйграла ягоная каманда “Toronto Hustle”. Акрамя названага Кубка Антось паспеў выйграць некалькі гонак па-за межамі правінцыі (у Канадзе і ЗША). Цікава, што самы малодшы сябра “Toronto Hustle” стаў чэмпіёнам Канады сярод юніёраў!

Дзеля больш дакладнага ўсведамлення ўзроўню спартовых дасягненняў Антося Вараб’я трэба заўважыць, што насельніцтва Канады, дзе роварны спорт вельмі папулярны, – 36,3 млн.

2 верасня 2017 г. у дзень свайго 32-годдзя Антось зрабіў сабе падарунак і паставіў акордную кропку ў сёлетнім гоначным сезоне – выйграў “саколку лідара” і ізноў узышоў на подыум, заняўшы 2-е месца ў прэстыжных шматдзённых гонках “Green Mountain Stage Race” (штат Вермонт, ЗША).

Цяпер наш спартовец разам з сябрамі працуе над канцэпцыяй пашырэння сваёй каманды да статусу клуба.

Ведаючы пра Антона крыху больш, чым пададзена ў гэтым артыкуле, маю сказаць, што гэта вельмі мужны і валявы чалавек. Ягоныя медалі, прызы здабытыя не толькі потам, але й крывёю у прамым сэнсе гэтага слова – ёсць здымак, на якім Антось з акрываўленымі тварам, рукамі, каленямі і ўвесь пабіты пасля таго, як вылез з чарговага “завалу”.

Да ўсяго сказанага вышэй трэба дадаць адну прынцыповую рэч: Антось з’яўляецца пераканаными прыхільнікам руху “Спорт без допінгу”.

Антось пазіцыянуе сябе як канадзец беларускага паходжання. За гэта ягоныя сябры, прыхільнікі клічуць яго The Most Belarusan. Няхай шаноўны чытач паспрабуе сам перакласці гэтае словазлучэнне.

**Алесь Кот, Таронта**

## ПАРТРЭТЫ БАРАДУЛІНА, КАРАТКЕВІЧА, КАСЦЮШКІ, КУПАЛЫ, МУЛЯВІНА – ЯК ВЫГЛЯДАЕ ЦЭНТР ВЫВУЧЭННЯ БЕЛАРУСІ Ў ПЕКІНЕ




1 верасня Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Рэспублікі Беларусь у КНР Кірыл Руды наведаў Другі Пекінскі інстытут замежных моў і Цэнтр вывучэння Беларусі. У часе візіту адбылася сустрэча Пасла з прарэктарам Другога Пекінскага інстытута замежных моў Чжу Пэйфэнь, піша Пасольства Беларусі ў Кітаі.

Бакі абмеркавалі перспектыўныя кірункі супрацоўніцтва і дзейнасць Цэнтра вывучэння Беларусі, размешчанага ў Другім Пекінскім інстытуце замежных моў.

Кірыл Руды адзначыў важнасць функцыянавання Цэнтра вывучэння Беларусі і падарыў Цэнтру каля 50 розных кніг беларускіх выдавецтваў. Ключавое месца сярод іх занялі кнігі, прысвечаныя 500-годдзю беларускага кнігадрукавання і Францыска Скарыны.

**Паводле “Наша Ніва”**



## ХВЕДАР НЮНЬКА ПАСЛЯ ЦЯЖКАЙ АПЕРАЦЫІ ІДЗЕ НА ПАПРАЎКУ

У жніўні вядомы беларускі грамадскі дзеяч з Літвы Хведар Нюнька перанёс цяжкую аперацыю. Паводле слоў яго дачкі Ніны Эванс, сп. Хведар упаў і моцна ўдарыўся галавой. Каб выратаваць яму жыццё, дактарам давялося рабіць вельмі складаную аперацыю, звязаную з трэпанацыяй чэрапа. Зараз Хведар Якубавіч дома, пад апекай родных і блізкіх. Сп. Хведар ідзе на папраўку, ён адчувае сябе лепей і знаходзіцца ў добрым настроі (на фота сп. Хведар Нюнька пасля аперацыі).

**Інфармацыйны цэнтр МГА “ЗБС “Бацькаўшчына”**

**навіны**

# БЕЛАРУСКАЯ ЦАРКВА Ў ЛОНДАНЕ – НАМІНАНТ НА ПРЭЗІДЭНЦКУЮ ПРЭМІЮ НАЦЫЯНАЛЬНАЙ ЦАРКОЎНАЙ ФУНДАЦЫІ Ў ВЯЛІКАБРЫТАНІІ

Айцец Сяргей Стасевіч падзяліўся ў сваім фэйсбуку радасцю з той нагоды, што драўляная Грэка-каталіцкая царква беларускай супольнасці ў Лондане апынулася сярод намінантаў на Прэзідэнцкую прэмію Нацыянальнай Царкоўнай Фундацыі (National Churches Trust) у Вялікабрытаніі.

"У нас толькі 3 канкурэнты з ліку новых сакральных і рэлігійных будынкаў, пабудаваных у краіне, – паведамляе айцец Сяргей, – Пераможца атрымлівае грашовы прыз і срэбны келіх з патэнай у часовае карыстанне".

Архітэктар першага з 1666 года драўлянага храма ў Лондане Со Цзыўая нарадзіўся ў Кітаі, вырас у Ганконгу, атрымаў адукацыю ў Брытаніі. У 2007 годзе ён даведаўся пра Беларускую каталіцкую місію ў Лондане і так захапіўся Беларуссю, што перайшоў ва ўніяцтва. На прапанову а. Сяргея Стасевіча архітэктар зрабіў праект капліцы для беларускай місіі, і ў 2016 годзе царкву пабудавалі.

https://www.facebook.com/siarhiej.stasievich



# ЁН ТАКІ РАЗУМНЫ, А ЯНА ВЯСЁЛАЯ. СУПЕРКНІГА ПРА БІЛА З БОЛАЮ

Саюз беларускіх пісьменнікаў выпусціў унікальную дзіцячую "Суперкнігу пра Біла з Болаю" пра дзяўчынку з абмежаванымі магчымасцямі. У кнізе пранікнёна і рэалістычна распавядаецца пра сям'ю, у якой расце незвычайнае дзіця. У хлопчыка Біла з'яўляецца сястрычка Бола – нагода для радасці, весялосці і гонару. Але час ідзе, і паступова сям'я пачынае разумець, што з Болай адбываецца нешта не тое. Кніга ў вершаванай форме распавядае пра жыццё дзяўчынкі, якая ніколі не будзе як усе. Пра звязаныя з гэтым радасць і гора, надзею




і роспач. Пра тое, наколькі мы гатовыя жыць побач з тымі, хто не падобны да нас. Але найперш гэтая кніга пра любоў і здольнасць прымаць.

Кнігу пераклалі на беларускую мову Надзея Кандрусевіч і Алеся Башарымава, а таленавіты беларускі паэт Андрэй Хадановіч зрабіў так, каб пераклад загучаў напоўніцу – эмацыйна і кранальна. Аповед вядзецца ад імя Біла, брата Болы, з якім чытач разам перажывае ўсю гаму пачуццяў – і шчасце, і боль, і злосць, і замілаванне.

Аўтарка кнігі – шведская пісьменніца Гуніла Бэргстрэм. Яна напісала каля 40 дзіцячых кніг, якія сама і праілюстравала. Гісторыю Біла і Болы яна пісала з уласнай сям'і: у яе двое дзяцей, а ў малодшай дачкі аўтызм. Кнігі пра Біла і Болу – класіка шведскай літаратуры. Паводле іх знятыя анімацыйныя фільмы і зробленыя тэатральныя пастаноўкі. У 2012 годзе Гуніле Бэргстрэм уручылі залаты медаль "за новы падыход у напісанні і афармленні дзіцячай кнігі з бездакорным адчуваннем дзіцячага светапогляду".

**"Суперкнігу пра Біла з Болаю" можна набыць па наступных адрасах:**

**Мінск:**

"Галіяфы" (halijafy.by),
"Рыжы кот" (ГЦ Рыга),
"Замечательные книги" ( ГЦ Няміга-3),
у ІП Афанасенка (ГЦ "Маскоўска-Венскі")
"Цэнтральная кнігарня" (пр-т Незалежнасці, 19),
"Акадэмкніга" (пр-т Незалежнасці, 72),
"Кнігі і кніжачкі" (пр-т Незалежнасці, 14),
"Кнігарня пісьменніка" (вул. Казлова, 2),
"Светач" (пр-т Пераможцаў, 11),
"Веды" (вул. К. Маркса, 36),
Этнакрама "Рагна" (вул. Сухая, 4),
ІП А. Яўдаха (Knihar Knihiby),
Алесь Дудар (ГЦ "Арэна-сіці"),
"Выдатныя кнігі" (Няміга, 3 бокс 21),
"Сундучок" http://sunduchok-knig.by/

**Брэст:**

"Вітаўт" (вул. Савецкая, 55),

**і з дастаўкай па ўсім свеце**

https://symbal.by/t/688-khiha-bil-bola/

**Прэс-служба ГА "Саюз беларускіх пісьменнікаў"**

**in memoriam**

# У НЬЮ-ЁРКУ ПАМЕРЛА ЮЛІЯ АНДРУСІШЫНА

16 верасня ў Нью-Ёрку памерла дзячка беларускай эміграцыі Юлія Андрусішына.

У апошнія хвіліны яе трымаў за руку яе сын Багдан Андрусішын (Данчык). Юліі Андрусішынай у чэрвені споўнілася 85 годоў. Юлія паходзіла з сям'і Луцкевічаў. Яе маці, Яніна Каханоўская, у дзяцінстве даглядалася Максімам Багдановічам, ведала Янку Купалу, была найбліжэйшай сяброўкай Наталлі Арсенневай, працавала ў Нью-Ёрскім бюро радыё "Свабода". У яе засталіся сыны Юрка і Багдан.

**"Радыё Свабода"**



## Беларускі каляндар памятных дат на кастрычнік 2017 года

2 кастрычніка – 175 гадоў таму, у 1842-м, нарадзіўся Баляслаў Кульчыцкі, адзін з кіраўнікоў паўстання 1863–1864 гг.

3 кастрычніка – 95 гадоў таму, у 1922-м, нарадзіўся Міхась Наўмовіч, мастак, дзеяч эміграцыі ў Францыі.

5 кастрычніка – 145 гадоў таму, у 1872-м, памёр Іосіф Гашкевіч, мовазнавец, даследчык Японіі і Кітая, натураліст.

7 кастрычніка – 105 гадоў таму, у 1912-м, нарадзіўся Юры Попка, пісьменнік, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне.

10 кастрычніка – 50 гадоў таму, у 1976-м, у Гданьску заснавана Беларускае Грамадска-Культурнае Таварыства.

13 кастрычніка – 170 гадоў таму, у 1847-м, нарадзіўся Эдвард Вайніловіч, палітычны дзеяч.

15 кастрычніка – 200 гадоў таму, у 1817-м, памёр Тадэвуш Касцюшка, кіраўнік паўстання 1794 г.

19 кастрычніка – 50 гадоў таму, у 1967-м, памёр Аляксандр Махноўскі, дзеяч эміграцыі ў ЗША.

20 кастрычніка – 125 гадоў таму, у 1892-м, нарадзіўся Янка Тарасевіч, дзеяч эміграцыі ў Канадзе, Швейцарыі і ЗША.

22 кастрычніка – 80 гадоў таму, у 1937-м, нарадзілася Надзея Груша (дзяв. Сасноўская), дзеяч эміграцыі ў Аўстраліі.

22 кастрычніка – 80 гадоў таму, у 1937-м, памёр Лукаш Калюга (сапр. Кастусь Вашына), пісьменнік.

22 кастрычніка – 60 гадоў таму, у 1957-м, памёр Аляксандр Савіч, гісторык.

27 кастрычніка – 110 гадоў таму у 1907-м, памёр Зыгмунт Чаховіч, адзін з кіраўнікоў паўстання 1863–1864 гг.

27 кастрычніка – 70 гадоў таму, у 1947-м, у Лондане заснавана Беларуская каталіцкая місія візантыйска-славянскага абраду ў Англіі.

29 кастрычніка – 80 гадоў таму, у 1937-м, у Мінску ў будынку НКУС цягам ночы расстраляныя 22 беларускія пісьменнікі, шэраг навукоўцаў і грамадскіх дзеячаў. Сярод забітых былі Платон Галавач, пісьменнік; Хацкель Дунец, пісьменнік; Алесь Дудар (сапр. Аляксандр Дайлідовіч), паэт; Міхась Зарэцкі (сапр. Касянкоў), пісьменнік; Васіль Каваль (сапр. Кавалёў), пісьменнік; Валерый Маракоў, паэт; Васіль Сташэўскі, пісьменнік, грамадскі дзеяч, удзельнік Слуцкага паўстання; Міхась Чарот (сапр. Кудзелька), паэт.

30 кастрычніка – 80 гадоў таму, у 1937-м, у Мінску ў НКУС расстраляны 32 чалавекі, сярод якіх былі Янка Нёманскі (сапр. Іван Пятровіч), пісьменнік; Тодар Кляшторны, паэт.

31 кастрычніка – 85 гадоў таму, у 1932-м, памёр Кіпрыян Кандратовіч, міністр Беларускай Народнай Рэспублікі.

31 кастрычніка – 80 гадоў таму, у 1937-м, памёр Антон Баліцкі, грамадскі дзеяч.

31 кастрычніка – 80 гадоў таму, у 1937-м, нарадзіўся Яўген Кулік, мастак.

31 кастрычніка – 25 гадоў таму, у 1992-м, памёр Міхась Ткачоў, гісторык, археолаг.

**Беларусы ў свеце**
No 9 (184), верасень 2017

Інфармацыйны бюлетэнь
МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"

Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.
Меркаванні аўтараў могуць не супадаць з думкай рэдакцыі.

Падрыхтоўка матэрыялаў і вёрстка – С. Кандрацёнка
Адказныя за нумар – Н. Шыдлоўская, А Макоўская
Наклад 250 асобнікаў

Адрас рэдакцыі:
вул. Кузьмы Чорнага, 31, офіс 906
г. Мінск 220012, Рэспубліка Беларусь
www.zbsb.org
zbsb.minsk@gmail.com
тэл./факс (+375 17) 200-70-27